*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 17(125) ◈ 28 красавіка 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## Ці стоміцца язык ад балбатні пра двухмоўе?

Стар. 2

## НЕ ПАЛЕШУКІ, А БЕЛАРУСЫ

Стар. 3

## БНР БЫЛА РЭАЛЬНАЙ РЭСПУБЛІКАЙ

Стар. 4






Пачатак красавіка ў Беларусі прайшоў пад лозунгамі «Не — вайсковаму саюзу з Расіяй». Але ні лозунгі, ні мітынгі ў абарону нейтралітэту нашай краіны, ні заявы супраць вайсковага саюза многіх грамадскіх і дзяржаўных устаноў і арганізацый, ні збор подпісаў не пахіснулі пракамуністычную большасць Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у прыняцці рашэння далучыцца да дагавору «Аб калектыўнай бяспецы». 5 красавіка 1993 года Беларускі цэнтр сацыяльнага і палітычнага прагнозу правёў апытанне 1103 рэспандэнтаў з мэтай высветліць адносіны народа да захавання Рэспублікай Беларусь нейтралітэту, які прадугледжвае адмову ад уступлення ў любыя ваеннапалітычныя саюзы. За нейтралітэт — 54,9%, супраць — 27,2%, цяжка адказаць — 17,9%. Ёсць спадзяванне, што калі адбудзецца рэферэндум аб захаванні Рэспублікай Беларусь нейтралітэту, то беларускія хлопцы не будуць гінуць за чужыя інтарэсы.

Фота Л. ЛІПЕНЯ.

## НЕ ваеннаму саюзу

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*26 КРАСАВІКА СПОЎНІЛАСЯ 7 ГАДОЎ З ДНЯ КАТАСТРОФЫ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС. У газетах з'явілася пастанова Савета Міністраў РБ ад 8 красавіка 1993 года «Аб памерах дапамог і даплат насельніцтву, якое пацярпела ў выніку чарнобыльскай катастрофы». Але ніякія грошы здароўя не вернуць.*

●

**МЕНСК НАВЕДАЛА ПОЛЬСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ НА ЧАЛЕ З МІНІСТРАМ АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧЫ ЯНУШАМ АНУШКЕВІЧАМ.** Дэлегацыя сустрэлася са Старшынёй Вярхоўнага Савета і Старшынёй Савета Міністраў. Міністры абароны дзвюх суседніх дзяржаў падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве Польшчы і Беларусі ў ваеннай сферы. У час сустрэчы з С. Шушкевічам пан Анушкевіч заявіў, што НАТА для Польшчы з'яўляецца гарантам бяспекі. А для нас Расія?

●

**АДДЗЕЛ ІНФАРМАЦЫІ МЗС РЭСПУБЛІКІ ПАВЕДАМІЎ,** што святы айцец папа рымскі Іаан Павел II назначыў яго вялікасць архіепіскапа Габрыеля Мантальва апостальскім нунцыем у Рэспубліцы Беларусь.

●

*УПЕРШЫНЮ ЗА 42 ГАДЫ СВАЙГО ІСНАВАННЯ У БЕЛАРУСІ ВЫЙШЛА ГАЗЕТА «БЕЛАРУС», якую ў ЗША выпускае Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне. Набыць газету можна ў Менску ў кіёсках ТБМ, «Выбранецкіх шыхтоў», а таксама ў Задзіночанні беларускіх студэнтаў.*

●

**У КІНАТЭАТРЫ «МАСКВА» АДКРЫЎСЯ** Другі міжнародны кінафестываль «Жанчына ў кіно». У ім бяруць удзел жанчыны, рэжысёры, аператары, сцэнарысты з Беларусі, краін СНД, далёкага і блізкага замежжа. Сенсацыйным чакаецца стаць дакументальны фільм «Вызваліцелі і вызваленыя», які зняла нямецкі рэжысёр Х. Зандэр. У фільме даследуецца лёс жанчын, якія пацярпелі ад гвалту савецкіх салдат у час уступлення Чырвонай Арміі на тэрыторыю Германіі.

● *У суполках ТБМ* ●

## НОВЫ СТАТУС ІНСТЫТУЦКАЙ СУПОЛКІ

Суполка ТБМ імя Ф. Скарыны ў Беларускім тэхналагічным інстытуце (старшыня — кандыдат хімічных навук, дацэнт Я. Міляшкевіч) па заслугах лічыцца адной з лепшых, якія існуюць у ВНУ нашай рэспублікі. У адпаведнасці з загадам рэктара інстытута прафесара І. Жарскага тут яшчэ са студзеня мінулага года справаводства і справаздачнасць вядуцца па-беларуску, плённа працуюць пастаянныя курсы роднай мовы для супрацоўнікаў інстытута, а для прафесарска-выкладчыцкага саставу створаны свой універсітэт беларускай мовы, гісторыі і культуры (загадчык — доктар тэхнічных навук, прафесар А. Саламонаў). Летась «Наша слова» ўжо знаёміла чытачоў са значным пашырэннем беларускасці ў БТІ. Але час, як вядома, бяжыць, і актывісты ТБМ інстытута комплексна вырашаюць новыя праблемы, каб у самы бліжэйшы перыяд планамерна ажыццявіць перавод усяго навучальнага працэсу на родную мову, каб па ўсіх паказчыках БТІ стаў сапраўды беларускім. Са свайго вопыту сябры суполкі сакрэтаў не робяць. Таму сюды зноў запрасілі карэспандэнта газеты.

Пераступіўшы парог аднаго з карпусоў Беларускага тэхналагічнага, адразу пераконваешся, што гэты інстытут усё больш набывае рысы нацыянальнай ВНУ. Так, шыльды адміністрацыйных памяшканняў, аўдыторый і лабараторый выкананы па-беларуску. Пакоі былога парткама зараз прыстасоў-

(Заканчэнне на с. 3).

 

# Ці стоміцца язык ад балбатні пра двухмоўе?

Не буду варажыць, ці ён зрабіў гэта наўмысна, ці перад тым, як падысці да мікрафона, чуў звон, ды не ведаў, дзе ён. Але ўпэўнены, што прамоўца надта жадаў, каб усё было менавіта так, як казаў. Казаў жа ён (вядома, па-расійску) прыкладна вось што: у Казахстане вельмі разважліва падышлі да моўнага пытания — рашылі надаць рускай мове статус дзяржаўнай. Вось, маўляў, вопыт, варты перайманя!

Сапраўды ж, у той час (гэта было ў кастрычніку мінулага года) яшчэ толькі абмяркоўвалі праект Асноўнага закона Казахстана і ніякага канчатковага рашэння быць не магло. А вось у нядаўна прынятай у Алма-Аце Канстытуцыі рэспублікі дзяржаўнай мовай аб'яўлена якраз толькі казахская. І гэта, дабаўлю ад сябе, нягледзячы на тое, што казахі складаюць там толькі дзве пятыя ад агульнага ліку жыхароў і іх значна менш, чым рускамоўных. Нашым заканадаўцам, сапраўды, не пашкодзіла б павучыцца ў сваіх калег, як трэба абараняць мову карэннай нацыі ў яе ўласным доме.

Я не ведаю, ці прасіў той дэпутат прабачэння за падман усіх, хто яго слухаў. Ды шчыра кажучы, не чакаў гэтага: нашы парламентарыі маральнасць нярэдка падпарадкоўваюць інтарэсам сваёй палітычнай барацьбы. Затое спадзяваўся, што беларускія газеты праінфармуюць чытачоў, як вырашалася пытанне аб мовах у згаданай краіне. Яна ж адзіная з былых саюзных рэспублік (не лічачы Беларусі), у якой была рэальная пагроза ўвядзення двухмоўя. На жаль, аб гэтым давялося прачытаць толькі ў маскоўскім незалежным друку.

У дэпутацкіх прамовах, як, дарэчы, і ў розных рускамоўных выданнях рэспублікі, робяцца спасылкі і на тое, што ў дзесятках краін свету дзяржаўнымі з'яўляюцца дзве і больш моў. Наконт колькасці аўтары гэтых выказванняў маюць рацыю: з дапамогай даведачнай літаратуры я налічыў звыш сарака такіх краін. Але гэта толькі адзін бок медалі. Пра адваротны прыхільнікі двухмоўя лічаць за лепшае прамаўчаць. Чаму так?

Усе гэтыя дзяржавы (за выключэннем некаторых краін, напрыклад Швейцарыі або Бельгіі, дзе кампактна

●

*Ёсць у беларусаў старадаўняя прымаўка: «Мялі, васпане, пакуль язык не прыстане». Яна нагадваецца, калі, бывае, слухаеш па радыё ці тэлебачанні выступленне якога-небудзь народнага выбранніка. На жаль, насуперак сэнсу афарызма той-сёй усур'ёз успрымае такога «васпана», дакладней, тое, што ён мовіць. Паверылі ж некаторыя «вутцы», якую пусціў адзін дэпутат з парламенцкай трыбуны (прозвішча, прабачце, не памятаю), калі абмяркоўвалі праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.*

●

пражываюць два-тры народы) — колішнія калоніі, якія здабылі незалежнасць галоўным чынам пасля Другой сусветнай вайны. Няцяжка здагадацца, што мовы былых метраполій маюць там афіцыйны статус. І таму ў нас могуць узнікнуць непажаданыя для шмат каго асацыяцыі...

Гаворачы пра гэта, нельга абысці такія еўрапейскія краіны, як Ірландыя і Фінляндыя. Пра першую дэпутаты-«звышінтэрнацыяналісты» памоўчваюць, бо там англійскія заваёўнікі зрабілі з ірландскай мовай тое, што ў нас русіфікатары — з беларускай. І ў існуючым двухмоўным асяроддзі справа не паляпшаецца, хаця Ірландыя ўжо болей за сорак гадоў — суверэнная рэспубліка.

Што да Фінляндыі, дык яе беларусафобы любяць ставіць у прыклад. Слухайце, гавораць яны сваім апанентам: там няма ніякіх праблем з-за таго, што, акрамя фінскай, афіцыйны статус мае і шведская мова. Слухайце і матайце сабе на вус... Гэтыя сентэнцыі разлічаны на недасведчаных або забыўлівых людзей. Так, праблем там няма: ніхто і нішто не пагражае цяпер мове фінскага народа. Але ці ўсе ведаюць або памятаюць, у якім жахлівым стане яна знаходзілася ў часы шматвяковага панавання Швецыі над фінамі? Дастаткова сказаць, што выкладанне ў школах вялося толькі на шведскай мове, якая насаджалася ў якасці дзяржаўнай, што на мове карэннага насельніцтва забаранялася друкаваць усё, акрамя рэлігійнай ды сельскагаспадарчай літаратуры. Калі краіна Суомі была далучана да Расійскай імперыі, у ёй узмацніўся рух за развіццё нацыянальнай культуры і мовы. Але апошняя стала дамінуючай ва ўсіх сферах жыцця толькі пасля атрымання Фінляндыяй незалежнасці.

Шведызацыя і русіфікацыя (а раней паланізацыя) — аднаго поля ягадкі. Аднак жа нашы заканадаўцы, аб'явіўшы суверэнітэт рэспублікі, не імкнуцца адрадзіць мову беларусаў, а спяшаюцца спачатку прынізіць матчына слова, а потым зусім выкараніць яго.

Што ж, у свеце налічваецца больш за сем дзесяткаў краін, дзе афіцыйнай з'яўляецца толькі мова ўчарашняй ці сённяшняй метраполіі. Ды гэта, лічу, не козыр для непрыхільнікаў беларушчыны: мовы тубыльцаў або яшчэ не маюць сваёй пісьменнасці, або атрымалі яе параўнальна нядаўна.

Дык куды клічуць нас змагары за поўную русіфікацыю Беларусі? Да каго хочуць прыпадобніць? Наша ж беларуская мова была дзяржаўнай яшчэ ў Вялікім княстве Літоўскім, нашы продкі адкрылі першы універсітэт ва Усходняй Еўропе (амаль за два стагоддзі да заснавання Маскоўскага), наш Францішак Скарына на паўвека раней, чым рускі першадрукар, пачаў выдаваць свае кнігі.

Вялікія духоўныя страты панеслі беларусы за апошнія стагоддзі і дзесяцігоддзі. І грэх нам не выкарыстаць яшчэ не згублены шанц для нацыянальнага Адраджэння. Трэба браць прыклад з тых народаў, якія здолелі ўваскрэсіць сваю мову, раўняцца на тыя цывілізаваныя краіны, дзе статус афіцыйнай мае толькі мова, якая дала назву дзяржаве і з'яўляецца, зразумела, роднай мовай для асноўнага насельніцтва.

...Цяжка разлічваць, што дэпутаты з каланіяльным мысленнем ды імперскай арыентацыяй, былыя і цяперашнія наменклатуршчыкі «поступятся принципами» ды штосьці зробяць, каб хутчэй адрадзіліся нашы нацыя і мова. Дык, можа, хоць дачакаемся, калі ў іх язык прыстане ад балбатні пра двухмоўе?

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ,**
**ветэран вайны і Узброенных Сіл.**

# На Украіне я стаў «чужынцам», а Беларусі не патрэбны

Тое, што прэзідэнт Краўчук не падпісаў Статут Садружнасці Незалежных Дзяржаў успрынята ўкраінскімі нацыяналістамі як «перамога над імперыяй». Гэта іхняя справа. Але апошнім часам усё больш дастаецца мне, таму што звыш дзесяці гадоў выкладаю ў школе расійскую мову. Заўсёды, як толькі Шушкевіч з Кебічам падтрымаюць Ельцына ці яшчэ якога дзеяча з «Усходу» і не падтрымаюць Краўчука, у школе ўспамінаюць пра мяне, бо «мае кіраўнікі», бач, выступаюць «супраць Украіны». А нядаўна дырэктар школы, які раней праслаўляў КПСС—КПУ, а цяпер стаў ярым нацыяналістам, паведаміў зларадна: «Уся Украіна ў тваім Мінску дала зразумець, што назад у імперыю не збіраецца, а з Кіева прыйшла цыдулка, што з верасня 1993 года расійскай мовы застанецца па адной гадзіне на тыдзень у V—IX класах, а ў I—IV класах на яе ранейшае месца ўводзяцца англійская і нямецкая. Так што працы вам не будзе. Раю вяртацца да сябе на абруселую Беларусь — там для расійскай мовы заўсёды будзе давацца ў школе шмат гадзін. Бо яна ж вам даражэй за родную». Уявіце сябе, шаноўнае спадарства, на маім месцы. Я ўжо два гады сапраўды спрабую вярнуцца на Беларусь, каб выкладаць там не расійскую, а родную мову, але, апроч выдаткаў на безліч аб'яў, абмен кватэры не атрымліваецца. Пісаў ужо і Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевічу і намесніку Старшыні Савета Міністраў сп. Дзямчуку. А ў адказ прыйшлі мне звычайныя адпіскі з парадамі... памяняць кватэру на Беларусь. Як быццам я гэтага сам не ведаю!!!

Была нейкая спадзяванка на Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», якое ладзіла Сход беларусаў бліжняга замежжа, напісаў ліст спадару Лозку з просьбай даслаць мне запрашэнне, але ад спадара Лозкі ні гуку. Вось так і атрымліваецца, што ў беларускай прэсе «патрыёты» ўзнімаюць лямант, што няма каму вучыць дзяцей беларускай мове, а як даходзіць да практычнай дапамогі чалавеку, які хацеў бы паспрыяць беларускаму Адраджэнню, усе «выціраюць рукі». І атрымліваецца, што на Украіне я чужынец, бо вучу дзяцей-украінцаў чужой мове, і Беларусі я не патрэбен, бо там няма каму дапамагчы мне вярнуцца на Бацькаўшчыну. Цяпер даводзіцца распрацоўваць два «запасныя» варыянты адыходу з Украіны: у Карэлію, дзе мне даюць стаўку завуча школы і паўстаўкі за выкладанне расійскай мовы, і маю прапанову на абмен кватэры з Махачкалой, дзе ёсць дамоўленасць аб месцы карэспандэнта ў адной з рэспубліканскіх газет. Так што ў гэтым годзе я так ці інакш адсюль з'еду. Прыкра толькі, што з'еду не на Бацькаўшчыну, а зноў — у эміграцыю, на гэты раз у Расію, бо свая Бацькаўшчына не хоча вяртання назад беларускіх патрыётаў, тых, хто і ў эміграцыі захаваў любоў да яе, любоў да сваёй роднай мовы, культуры, гісторыі...

Пішу апошні ліст-зварот да шырокай беларускай грамадскасці, і калі і пасля яго мой голас застанецца не пачутым, назаўсёды, відаць, давядзецца застацца эмігрантам, бо мне ўжо 49 гадоў будзе ў красавіку, я стаміўся ад чаканняў-спадзяванняў. А мне б на Беларусі аднапакаёвую кватэру і стаўку выкладчыка роднай мовы і літаратуры!

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**выкладчык рускай і польскай моў.**

г. Ізяслаў Хмяльніцкай вобл.

# «Урок мужнасці» ў гімназіі

Нядаўна патрыятычныя згуртаванні і суполкі Маладзечаншчыны звярнуліся праз друк да грамадзян рэспублікі з прапановай правесці «Дзень мужнасці», прысвечаны 130-ым угодкам паўстання Кастуся Каліноўскага. 26 лютага такі «Дзень мужнасці», а дакладней, «Урок мужнасці» адбыўся ў Маладзечанскай беларускай гімназіі, у якім прынялі ўдзел народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Яўген Цумараў і старшыня маладзечанскага аддзялення ТБМ імя Францішка Скарыны настаўнік гісторыі Лявон Цімохін. Ён расказаў прысутным аб вызваленчай барацьбе беларускага народа ў 1863—1864 гг., якую ўзначаліў нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі. У цікавым і змястоўным выступленні Яўген Цумараў заклікаў настаўнікаў і вучняў берагчы Бацькаўшчыну, духоўныя здабыткі і родную мову народа. Аднак, калі вучні старэйшых класаў пачалі задаваць гасцям пытанні, выявілася прыкрая акалічнасць: большасць школьнікаў скептычна адносіцца да гісторыі Беларусі і не валодае роднай мовай. Стала відавочным, што ў навастворанай беларускай гімназіі настаўнікам патрэбна будзе шмат працаваць, каб выхаванцы набылі належныя веды па роднай мове, а таксама павагу да яе. Дамагчыся ж гэтага педагогі змогуць у тым выпадку, калі самі будуць любіць і ведаць гісторыю і мову свайго народа. Будзем спадзявацца, што з цягам часу Маладзечанская гімназія стане беларускай у сапраўднасці, а не на паперы.

**М. КАПЫЛОВІЧ.**

# *Патрэбны толькі час і праца*

Свята, прысвечанае заканчэнню тыдня беларускай мовы і літаратуры, адбылося ў сярэдняй школе г.п. Радашковічы. Вучні розных класаў паказалі народныя абрады: «Купалле», «Сустрэча вясны», «Масленіца», інсцэніроўку народнай казкі пра скупога пана. Яны чыталі вершы, спявалі беларускія народныя песні. На заканчэнне прапанавалі ўрывак з бессмяротнай «Паўлінкі».

Зусім нядаўна школа пераехала ў новы будынак. Вельмі прыемна і важна, што ў новай школе адчуваецца сам дух Беларусі. Кожнага ля ўвахода сустракае наш бел-чырвона-белы сцяг. Актавая зала таксама ўпрыгожана нацыянальнай сімволікай Рэспублікі Беларусь. Добра працуюць настаўнікі беларускай мовы і літаратуры школы, якія падрыхтавалі і правялі тыдзень роднай мовы і літаратуры. Гэта Ірына Анатольеўна Савіцкая, Ніна Аляксееўна Багіно, Галіна Дзмітрыеўна Невяровіч. Асабліва адзначаю выкладчыцу англійскай мовы Валянціну Андрэеўну Беразняцкую. Са сваімі вучнямі яна адраджае ўсе народныя абрады і звычаі. Плённа працуе на ніве Адраджэння і настаўніца пачатковых класаў Валянціна Рыгораўна Шарамет.

«Новы будынак надаў новыя сілы настаўнікам, падцягнуў вучняў»,— гаворыць намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Іна Міхайлаўна Шураева.— У настаўнікаў многа добрых, цікавых задум, патрэбны толькі час і праца, каб іх ажыццявіць». Пажадаем ім поспехаў.

**Мікола ЛІННІК,**
**старшыня бацькоўскага камітэта школы.**

г.п. Радашковічы.



 

# Гартаючы старонкі «Беларуса»

Беларусы, якія воляю лёсу апынуліся ў чужых краінах, вядуць актыўнае грамадскае жыццё, выдаюць кнігі, газеты, часопісы, маюць свае цэрквы і касцёлы. У ЗША, Канадзе, Аўстраліі і Англіі створаны культурныя цэнтры, дзе адзначаюцца рэлігійныя святы, праводзяцца грамадскія ўрачыстасці і сустрэчы. Часта пры такіх цэнтрах ёсць бібліятэкі, музеі, працуюць школкі, у якіх дзяцей вучаць роднай мове. Падрабязная інфармацыя пра грамадска-культурнае жыццё беларусаў у вольным свеце рэгулярна змяшчаецца на старонках газеты «Беларус», што выдаецца Беларуска-амерыканскім Задзіночаннем у ЗША. Сёння мы пазнаёмім нашых чытачоў з найбольш значнымі падзеямі з жыцця нашых суродзічаў.

У кастрычніку мінулага года Беларуская праваслаўная парафія ў Саўт-Рыверы ў штаце Нью-Джэрсі ўрачыста адсвяткавала дваццатыя ўгодкі ўваходу ў царкву імя святой Ефрасінні Полацкай, што была пабудавана на ўласныя сродкі беларусаў.

У горадзе Сіэтл у штаце Вашынгтон адбылася 37-ая канферэнцыя Міжнароднага таварыства этнамузыколагаў, на якой з дакладам на тэму: «Цытаты для кенгуру: шматтэкставасць і стыль у беларускім року» выступіла Марыя Паўла Сурвіла, доктар Мічыганскага універсітэта. Яна даследуе розныя падыходы да музычнага стылю ў музыцы беларускіх гуртоў з асаблівым акцэнтам на гурт «Мроя».

Беларусы Нью-Йорка і навакольных мясцін наладзілі святкаванне «Дажынак» у Гайленд Парку. Былі тут і госці з Беларусі. З прывітальным словам выступіў сп. В. Русак, які нагадаў пра дваццатую сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі і адзначыў асаблівыя заслугі ў яе правядзенні сп. Антона Шукелойця, старшыні галоўнай управы БАЗА, сп. Міколы Ганько, старшыні Згуртавання Беларусаў Канады, сп. Янкі Азаркі, старшыні ньюджэрсійскага аддзела БАЗА і сп. Юркі Азаркі, старшыні сустрэчы. Ён расказаў таксама пра канкрэтныя вынікі работы Фонда дапамогі ахвярам Чарнобыля, які быў заснаваны на пасяджэнні Рады Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) у красавіку 1989 г. Сёння Фондам на Беларусь адпраўлены чатыры кантэйнеры з медыкаментамі коштам больш за два мільёны рублёў.

28 і 29 лістапада беларусамі Амерыкі, Канады, Англіі і Аўстраліі адзначаліся ўгодкі Слуцкага паўстання.

З гэтай нагоды прадстаўнікі Задзіночання Беларуска-амерыканскіх ветэранаў (ЗБАВ) усклалі вянок да помніка беларускім героям на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку. На ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным гэтай даце, з дакладам «Пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына» выступіў д-р Янка Запруднік. Ён адзначыў важнасць для псіхалагічнага адраджэння беларусаў факта адкрытага ўшанавання памяці слуцкіх паўстанцаў на Бацькаўшчыне. Былі зачытаны прывітанні ад рэдактара ветэранскага часопіса «Зважай» сп. Кастуся Акулы, а таксама тэкст, высланы ад БАЗы Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына».

Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ) з гэтай нагоды таксама правяло ўрачыстае пасяджэнне ў зале Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны. З рэфератам на тэму дня выступіў А. Зданковіч. Ён зачытаў прывітальныя лісты ад беларускіх згуртаванняў з розных куткоў свету. Тут жа з прамовай выступілі айцец А. Надсан, прафесар Дж. Дзінглі, які адначасна паведаміў сумную вестку пра смерць выдатнага вучонага і грамадскага дзеяча Міхася Ткачова, памяць якога была ўшанавана хвілінай маўчання.

Беларусы Аўстраліі таксама адзначылі дзве важныя гістарычныя падзеі: 75-ыя ўгодкі Усебеларускага Кангрэса і 72-ія ўгодкі Слуцкага паўстання. З гэтай нагоды адбылося ўрачыстае пасяджэнне ў Беларускім клубе ў г. Сіднеі, у час якога з дакладам выступіў Міхась Лужынскі.

Управа Беларускага Аб'яднання ў Заходняй Аўстраліі таксама арганізавала святкаванне ўгодкаў Слуцкага паўстання.

Пасля набажэнства, якое адбылося ў царкве св. Марыі ў Беларускім Народным Доме (г. Байсвотэр), прысутных вітаў старшыня БАЎЗА Міхась Раецкі. У сваім дакладзе ён спыніўся на прычынах Слуцкага паўстання і расказаў пра лёс змагароў Слуцкай брыгады. У Адэлайдзе (Аўстралія) беларусы, украінцы і харваты пабудавалі дом для састарэлых людзей. На гэтую справу дзяржава ахвяравала 1,7 мільёна долараў.

У г. Мельбурне (штат Вікторыя) адбыўся 10—21 студзеня г. г. Дзесяты з'езд Выканаўчага камітэта Федэральнай Рады Беларускіх арганізацый у Аўстраліі. Удзельнікі з'езда прааналізавалі сваю дзейнасць за апошнія два гады. У сваім дакладзе старшыня Выканаўчага камітэта сп. А. Груша адзначыў важнасць дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы ў Беларусі. З гэтай мэтай было сабрана 37 тысяч долараў, і адказная праца па зборы сродкаў на дапамогу чарнобыльцам праводзіцца далей. З'езд выбраў на наступныя два гады кіраўніцтва Федэральнай Рады.

Прадстаўнікі беларускай дыяспары вядуць актыўнае грамадскае жыццё, змагаюцца за незалежную Беларусь. На вялікі жаль, гэта ўжо людзі сталага ўзросту, і з кожным годам іх становіцца ўсё меней. Нядаўна нашы суродзічы ў Амерыцы смуткавалі з нагоды смерці аднаго са сваіх найбольш актыўных працаўнікоў, шматгадовага кіраўніка Задзіночання Беларуска-амерыканскіх ветэранаў Сяргея Тутырчыка. 14 снежня пасля доўгай і цяжкай хваробы памерла маці вядомага беларускага дзеяча, дырэктара Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўта Кіпеля Марыя Кіпель. Яна належала да таго пакалення беларусаў, якое ў 30-ых гадах за сваю беларускасць і любоў да Бацькаўшчыны стала ахвярай сталінскага тэрору і генацыду на Беларусі. Беларусы Аўстраліі смуткуюць з нагоды смерці свайго нястомнага змагара за незалежную Беларусь, грамадскага дзеяча Міколы Скабея. Не стала таксама Янкі Сяўковіча і Зыгмунта Стантона (Сянкевіча), што жылі і вялі актыўную грамадскую дзейнасць у Вялікабрытаніі.

У адным з нумароў «Беларуса» пададзена інфармацыя пра вялікі артыкул вядомай брытанскай журналісткі Веры Рыч «Хто прыйдзе першы, той і будзе мець» пра рэлігійны стан на Беларусі і дыскрымінацыю беларускай мовы каталіцкай і праваслаўнай цэрквамі і пра ўніяцкую царкву, што прыхільна ставіцца да беларускай мовы. Аўтар прыводзіць новыя неафіцыйныя статыстычныя звесткі аб веравызнаннях у сучаснай Беларусі.

Гарадская ўправа каліфарнійскага горада Торэнса выказала падзяку рэдактару англамоўнага часопіса «Беларускі агляд» Язэпу Арцюху за яго грамадскую дзейнасць, працавітасць і адданасць справе.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

*Уражанні*

# КРЫНІЦЫ

Спяжынка ў яр. Круты пагорак. Спуск. А там у лазняку — крыніца. Звычайнае відовішча. Але як усё даступна, проста: прыпаў ніцма да шаўковай муравы, убачыў у вадзяным люстэрку свой твар, напіўся ўволю прахалоднай гаючай вадзіцы. І, удзячны невядома каму, рушыў далей... Але — стоп. Пачакай крыху, добры чалавек. Затрымайся ля гасціннай крынічкі, прысядзь і спытай сябе: «Адкуль усё гэта хараство? Каму асабіста ты павінен быць удзячны? Хто канкрэтна выратаваў цябе ад стомы, смагі і нязноснай спякоты?» Задумайся, прыслухайся да звонкага цурчання серабрыстага ручайка. Прыгледзься да таго, як на самым дне крынічкі злёгку ўзлятаюць, павольна апускаюцца і ледзь прыкметна варушацца, нібы жывыя, маленькія пясчынкі, каменьчыкі, дробныя кавалачкі драўніны. Пасядзі, палюбуйся нястомнай працай маленькага беларускага гейзера з яго руплівым ручайком. І... не, гэта табе не здалося... вось ён — Цуд... Вось яно — Дзіва!

Далей — яшчэ больш: у ціхім шэлесце дрэў, шэпце травы ты неўзабаве абавязкова пачуеш голас.

Не бянтэжся, то голас жывой Крыніцы. Пасядзі, паразважай, чалавек. І тады ты зноў пачуеш мілагучнае: «І табе я ўдзячна, што жыву! — прызнаецца Крыніца і зычліва дадасць: — Прыходзь яшчэ. Пачастую цябе чыстай вадзіцай».

Шмат крыніц за жыццё выпадае сустрэць чалавеку. Калі ўспомніць пра кожную з іх, то не цяжка заўважыць, як звязана існаванне крыніц з жыццём людзей.

Зрэшты, мяркуйце самі: адвеку чалавек імкнуўся сяліцца там, дзе была вада. Чалавек красамоўна назваў рэкі «воднымі артэрыямі», свае родныя мясціны «краем блакітных азёраў». Але ён мала задумваўся над тым, што менавіта з маленькага, кволага ручайка пачынаюцца, набіраюць моц магутныя рэкі, што на незлічоных падводных гейзерах якраз і трымаюцца амаль усе малыя і вялікія азёры. Калі ўважліва прасачыць за тым, як уладжаны свет, то не цяжка прыйсці да высновы: усё жывое на зямлі бярэ пачатак з жыватворных крыніц. Шкада, што не кажуць пра іх ні гугу. Хоць без крыніц, без балот і рэк, без лясоў і лугоў, сенажацяў тут была б пустыня. Дарэчы, якраз так і здарылася ў некалі маляўнічых, незвычайных па прыгажосці мясцінах майго дзяцінства.

Першае знаёмства з Крыніцай у мяне адбылося ў вёсцы. Зразумела, шмат гадоў прайшло з таго часу. Але і сёння добра помніцца невялічкая нізіна ля ракі Ушы на Чэрвеньшчыне. Помніцца вільготнае, не зважаючы на спёку, паветра і буйныя духмяныя сакаўныя травы, сярод якіх сям-там узвышаецца разлапісты балотны цыбульнік. За дрыгвой — кусцістыя алешыны, непралазны хмызняк. Мы — хлапчукі. Усё нас, дасціпных, надта цікавіць. Босыя ногі спрытна і лоўка пералятаюць з купіны на купіну. Багна вакол злосна бульбоча, бурболіць, свішча, вохкае. Зямля разам з травой пачынае ўсё больш дыхаць, гойдацца, прасядаць. Ад халоднай гаці — па целу мурашы, дрыжыкі. Асаблівага жаху надае тое, што нядаўна ў багну ўвалілася карова, якую ледзь выцягнулі. Непрыемныя ўспаміны. Да таго ж прыгадваецца, як нас некалі пужалі яшчэ і балотнымі чарцямі. Праўда, апошнія, казалі, больш уначы арудуюць, а тут — дзень. І калі чэрці, зрэшты, — бабулькіны байкі, то ўспаміны пра чорных бліскучых вужоў і шэрых гадзюк, якіх на свае вочы кожны неаднойчы бачыў, ужо не казкі... Але, нічога, Уперад!

Вось менавіта такой — недатыкальнай і далікатнай — засталася ў маіх успамінах першая ў жыцці Крыніца. Так і стаіць яна перад вачыма ў сваёй раскошнай зялёнай шалі з увішным віхлявым роем над ёй рознакаляровых стракоз. Тады яна ўяўлялася жывой, поўнай загадкавай, нават небяспечнай чароўнай сілы таямнічай істотай.

Эх!.. Што і казаць, калі цяпер, на жаль, ад той цудоўнай, маляўнічай, мілай сэрцу роднай мясціны не засталося амаль нічога. Сумна, бо тое гожае месца не пазнаць. І што ж мы маем? Дрыгва праваліласля, зямля скамянела, травы пасохлі. Пышныя некалі купіны, падобныя да мяккіх падушак, прыкметна ўсохліся, ператварыўшыся ў збітыя з глею, жорсткія валуны. Ні трэляў салаўя, ні траў, ні лесу. Вёска — як сярод пустога стэпу азіяцкі аул. Адно, што толькі суслікаў ды іх свісту не хапае. Што да Крыніцы, то і яна знікла.

Словам, пакутлівы лёс быў у маёй першай Крыніцы, пакуль з зямлі людзі прагна высмоктвалі апошнія сокі... Хацелі больш збожжа, а ледзь не дачакаліся суслікаў. Такі вынік, і такая плата за нядбайнасць...

Не менш жахлівы лёс напаткаў і другую, калі можна так мовіць, маю Крыніцу. У адрозненне ад першай, мала каму вядомай вясковай Крыніцы, другая паводле прапіскі — сталічная. Калі першая Крыніца скончыла жыццё даволі даўно і неяк ціха, гаротна, то сталічная сканала літаральна ўчора, на вачах у двухмільённага горада. Здарылася гэта падзея ў прыгарадзе вёскі Вяснянка, што ў Драздах.

Жыла Крыніца. Струменілася з-пад зямлі ля голага касагора. На выгляд была яна не надта прыгожай, але ж з чыстай вадой. Да той крыніцы прыходзілі не толькі мясцовыя жыхары і гараджане, але і людзі, што прыязджалі на адпачынак з далёкіх краёў. Яшчэ пазалетась у спякотныя дні да яе часта ішлі рыбакі і ўсе тыя, хто адпачываў у Драздах. Але мінулым летам Крыніцы ўжо не было. «І сапраўды, — дзівіліся людзі, — як скрозь зямлю праваліласля»... Была свежая вадзіца і — няма. Толькі рыбакі ведалі, каго за гэта злачынства трэба асабіста праклінаць. І клялі... Справа ў тым, што паблізу Крынічкі нейкі будаўнічы ці меліяратыўны трэст вёў земляныя работы. Калі ў глыбіні будаўнікі рабілі двухметровага дыяметра бетонны калектар, Крыніца са сваім бясконцым патокам грунтовых вод ім замінала. Каб пазбавіцца ад плывуноў, вырашылі неўтаймаваны струмень узяць у сталёвую трубу. Такім чынам вышэйшай якасці пітная вада раптоўна апынулася ў палоне, пацякла ў брудны паток гарадской каналізацыі. Як бачым, усё атрымалася лёгка і проста... І няма чаму вельмі дзівіцца. А як жа можа быць там, дзе няма сапраўднага Гаспадара?..

— Да такога ідыятызму ў былыя часы не дадумаўся б нават самы дурны пан, — з абурэннем заўважыў адзін з рыбакоў.

— Ого! — падхапіў другі. — Той бы яшчэ ля Крыніцы загадаў бы паставіць крыж. Наказаў бы абавязкова павесіць на яго саматканы ручнік.

— Мы п'ём ваду з хлорам, — дадаў трэці рыбак, — а тут... Гэта ж такая знявага да людзей... да прыроды!..

Калі гаворка павялася аб драздоўскай крыніцы, то галасы рыбакоў памякчэлі. Знаходзіцца яна пры самай шашы. Лёс гэтай Крыніцы пакуль што шчаслівы. Нібыта пачуўшы галасы тых рыбакоў, да Крыніцы прыйшлі вернікі, паставілі побач моцны крыж, на якім — абразок. Цяпер тое месца — святое. Піце сабе на здароўе, людзі!..

І калі падыходзіш да гэтай Крыніцы, то нельга ўтрымацца, каб ад душы не падзякаваць тым добрым людзям.

Лёс трох Крыніц. А колькі іх на зямлі Беларусі...

г. Менск

Яўген ШПАК.

# Усё пачынаецца з калыскі

*У гэтым глыбока пераканана настаўніца Вузлянскай школы Алена Сямёнаўна Хіла. Усё ў чалавеку — характар, здольнасці, схільнасці і звычкі бяруць выток з ранняга дзяцінства, першых уражанняў чалавека, таго духоўнага паветра, якім ён дыхае ў сямейным асяродку.*

Пераканаанне гэта зусім не тэарэтычнае. Калісьці яна сама, яшчэ люляючыся ў калысцы і толькі пачынаючы ўспрымаць навакольны свет, чула пяшчотную песню маці, бачыла перад сабой узорныя дываны і срабрыстыя ручнікі не работы, якімі была аздоблена хата.

Зараз у падобнай на тую вясковай хаціне — створаны Аленай Сямёнаўнай і яе сябрамі этнаграфічны музей з пакоем старога сялянскага побыту. У ім усё так, як было даўней: беленая печ, стол з лаваю, ахінуты ручнікамі абраз на покуці. Узорныя дываны на сценах. А пасярэдзіне — пацямнелая ад часу драўляная калыска-гойданка. Тая самая, што люляла маленькую Аленку, цяпер Алену Сямёнаўну, паважаную ў вёсцы і наваколлі.

У памяшканні школы, дзе працуе ветэран педагагічнай нівы, — своеасаблівы працяг музейнай экспазіцыі: цікавая выстава традыцыйнага народнага мастацтва і дзіцячай творчасці. У мясцовых старажылаў, ва ўласных сем'ях расшуквалі настаўнікі і вучні, заахвочаныя няўрымслівай Аленай Сямёнаўнай, дзівосныя ўзоры ткацтва, разьбы, саломапляцення. Многае зроблена ўжо цяпер уласнымі рукамі, падказана ўласнай фантазіяй і ўносіць цяплінку характва ў школьны інтэр'ер, сучаснае жытло вяскоўцаў. Ну, а прылады сялянскай працы і даўняга хатняга ўжытку — сярпы, таўкачы, калаўрот і нават... ступа нярэдка становяцца «дзейнымі асобамі» народных святаў і абрадаў, тэатралізаваных прадстаўленняў, якія наладжвае вядомы далёка за межамі Мядзельшчыны фалькорна-этнаграфічны ансамбль «Вузлянка». Яе завадатар і нязменны кіраўнік — тая ж самая Алена Сямёнаўна Хіла, дзякуючы якой мясцовая васьмігодка стала сапраўдным цэнтрам сельскай культуры, школай выхавання ў дзятвы і дарослых цікавасці і любові да багатай спадчыны продкаў.



...Канчаюцца ўрокі — настаўніцкая ператвараецца ў музычны клас. Якраз тут сярод захопленых народнай творчасцю людзей, і завязаўся вузельчык «Вузлянкі». І зараз перад чарговай рэпетыцыяй у цесначы, ды не ў крыўдзе ўладкаваліся сябры гурта. Побач з ветэранамі настаўніцкага і фальклорнага калектываў — Надзеяй Васільеўнай Мішчанкай, Таццянай Рыгораўнай і Віктарам Ціханавічам Купрэвічамі, Зінаідай Кірылаўнай Тачыцкай, Галінай Уладзіміраўнай Балаховіч — іх маладзейшыя паплечнікі і былыя вучні: Аліна Шульжыцкая, Ганна Батура, Антаніна Жыгалюк, Таццяна Пішч.

Алена Сямёнаўна дае знак, і адмысловы гарманіст Леанід Антонавіч Чарапок перакідвае рамень цераз плячо. На імгненне ў пакоі ўсё сціхае. І з гэтай цішыні — а мо з празрыстага паветра за акном, з глыбінь самой зямлі, што абуджаецца ад зімовага сну, нараджаецца і струменіць ціхі, задумлівы ручай песні.

А ў полі тры кранічанькі,
Там стаялі тры дзяўчынанькі:
Чарнявая, бялявая,
Трэця руса-кучаравая...

Пранікнёныя галасы зліваюцца ў адно рэчышча, агортваюць светлым сумам. Песня родная, змалку любая не «выконваецца» — вылятае з-пад самога сэрца. Яны з ёй раслі і зараз, у час агрэсіўна-разбуральнага наступу антыкультуры, не збіраюцца даваць ёй адстаўку. Бо яна — сама чысціня, паэзія і мудрасць, «мода» на якія ніколі не састарэе, была і будзе вечнай.

Колькі яшчэ неацэненых дыяментаў, ледзь не забытых неабачлівымі нашчадкамі, рассыпана ў народнай памяці, чакае свайго адкрыцця. Міма іх не пройдуць збіральнікі і захавальнікі фальклору з мядзельскай вёскі Вузла. Неяк у суседніх Альсевічах даведаліся яны пра паэтычны звычай продкаў — вясельны абрад «Каравай». Па драбніцы расшуквалі і ўзнаўлялі з ацалелых фрагментаў прыгожае народнае свята. Колькі ж было радасці людзям, калі настаўнікі прыйшлі з «Караваем» на вясковае вяселле!

Невычэрпную песенна-абрадавую спадчыну ўзялі ў свой рэпертуар пачынальнікі і прадаўжальнікі творчага народнага гурта. Ходзяць і ходзяць яны па навакольных вёсках, знаходзячы і вяртаючы да жыцця ў выглядзе яркіх тэатралізаваных дзействаў цэлыя цыклы народных каляндарных, працоўных, абрадавых святаў і гульняў, заснаваных на мясцовых звычаях і традыцыях. Тут і каляды, і гуканне вясны, зажынкі і дажынкі, вясёлыя «Вечарушкі», з якімі яны наведваліся ў хаты старых людзей, якім у клуб цяжка выбрацца. Калі ж калядуюць, ніводзін двор не прамінуць, інакш крыўды не абярэшся...

Слёзы радасці на вачах, словы падзякі на вуснах — так сустракаюць і праводзяць дарагіх гасцей землякі. Разам з матчынай песняй вяртаецца іх маладосць, уваскрасае надзея на лепшае.

...Алена Сямёнаўна згадвае, як аднойчы зімовым надвячоркам сабралася ў далёкую вёсачку да бабкі Тэклі — жывой скарбонкі даўніх песень, дасціпных жартаў, казак, прымавак.

— Іду ад шасейкі, у гурбах патанаю. А мароз-мароз, хутчэй бы да жытла дабрацца. Ды яшчэ ледзь не пудовы, дапатопны магнітафон рукзак на плячах адцягвае. Урэшце, увальваюся ў хату. А бабуля — вось неспадзеўка — захутаная ў коўдру ў ложку ляжыць, занядужала. Што тут будзеш рабіць? Тоесёе ўпарадкавала ў хаце, есці згатавала ды стала назад збірацца. Гаспадыня ж расхвалявалася, заўпарцілася: «Не думай, не пушчу. Стаў свой нітахфон, калі ўжо ўспомніла старую. Заспяваю — палегчае, вось убачыш...»

Так яно і было. Як добра, што паспела тады яе запісаць. Праз нейкі час не стала бабкі Тэклі, а песні яе жывуць.

...Семнаццаць год чаруе сваім мастацтвам, што ад каранёў роднае зямлі, спеўны гурт «Вузлянка». Чаруе не толькі жыхароў свайго раёна. З поспехам выступаў на шматлікіх творчых конкурсах і фестывалях, на Беларускім тэлебачанні, перад аматарамі фальклору ў Латвіі і Польшчы. А побач з настаўнікамі падымаецца новая змена прыхільнікаў народнай творчасці — вучнёўскі фальклорны ансамбль, спадарожнік «Вузлянкі». Яблыка ад яблыні недалёка коціцца...

Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.

Мядзельскі раён.

На здымку: Алена Сямёнаўна ХІЛА.

---



---

*Афарызмы*

*Петар ЛАЗІЧ*

Мяркуючы Каіну і Авелю, людзі ўсё ж такі браты.

Важна, што мы забяспечылі няздольных. Здольныя самастойна выкараскаюцца.

Наш шлях сапраўды непаўторны. Нікому не ўзбрыло б у галаву ісці ім.

Адысей хоць сам блукаў. Ітаку не вадзіў за сабою.

Сутыкненне інтэлігенцыі і ўлады надуманае. Інтэлігенцыя ніколі не зняволівала тых, хто ва ўладзе.

Шукаем новага чалавека! Жывога ці мёртвага!

Тым, хто слаба разбіраецца ў кнігах, прыдуманы кніжачкі.

Мы жывём у перадавым грамадстве. Большага не заслужылі.

Дзе-хто сцвярджае, што ў мяне няма ніякіх здольнасцей. Таварышы, гэта контррэвалюцыя!

Дагэтуль філосафы па-рознаму вытлумачвалі свет, а цяпер стаіць задача, каб іхнія тлумачэнні прывесці да аднолькавасці.

Моладзь — наша будучыня, бо ў сучаснасці ім няма чаго рабіць.

Падмуркі хісткія, але астатняе збудаванне аж трашчыць ад моцы.

Чым меней чытаю, тым болей мне застаецца часу крытыкаваць прачытанае.

Свабоды творчасці? Калі ласка. Толькі без асацыяцый.

Тэорыя дала «Капітал». Практыка «Міф пра Сізіфа».

Напачатку быў працаўнік, а потым у яго развілася класавая свядомасць.

Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.

---

*І смех і грэх*

*Мікола ВЯРШЫНІН*

## Мураш і Слон

(байка)

Мураш лічыў сябе дужэйшым за Слана:
Той не падыме груза, як ён сам.
Мураш падыме Мураша —
вядома ўсім здаўна,
Куды з ім сілай мерацца Сланам!
І вось рашыў саманадзейна, што пара
Уперціся і камень тут звярнуць.
Ад тупату Слана
каменьчык скінуўся з бугра,
І не паспеў Мураш
ні ўверх, ні ўніз зірнуць...
—»—
Не пераацані свае ты сілы,
Глядзі, каб каменем цябе
не раздушыла.

## Аксіёма

*(Маім сябрам з БНФ)*

*Будзь якім хочаш лоўкім дыпламатам —
Не здужыш чалавека з аўтаматам...
Будзь хоць самім Зянонам Пазьняком —
Перад стралковым не ўстаіш палком...*

*Анатоль ЦЫРКУНОЎ*

## Манкурцізм

Што падумаць могуць госці
Аб краіне і народзе,
Калі з могільніка косці
Раскіданы ў агародзе...

---



Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны. Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83. Індэкс 63865.
Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8614 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 23.04.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Зак. 269.